*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года | № 27(464) | 12 ЛІПЕНЯ 2000 г.

## Пачынаецца выдача новых пасведчанняў сяброў ТБМ







*Рэспубліканскае грамадзкае аб'яднаньне*
*"Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"*

Пасьведчаньне №

Сябра

Дата атрыманьня

Старшыня ТБМ

*Рэспубліканскае грамадзкае аб'яднаньне*
*"Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"*

Пасьведчаньне №

Сябра

(фота)

Дата атрыманьня

Старшыня ТБМ

У адпаведнасці з рашэннем Рады сакратарыята ТБМ кіраўніцтва ТБМ надрукавала два варыянты новых сяброўскіх білетаў ТБМ. Абодва выданні – каляровыя. Адзін варыянт прадугледжвае фотаздымак і каштуе 500 рублёў, другі – без фотаздымка – коштам 300 рублёў.

Пры гэтым старыя пасведчанні застаюцца ў сіле і імі можна карыстацца неабмежаваны час.

Сябры ТБМ, якія жадаюць атрымаць новыя пасведчанні, здаюць грошы ( і ў адным з выпадкаў – фотаздымкі памерам 2,5х3.5 см, як чорна-белыя, так і каляровыя) старшыні суполкі, які іх перадае ў сядзібу таварыства. Новыя пасведчанні будуць мець скразную нумарацыю і выдавацца толькі ў цэнтральнай сядзібе ТБМ.

**9 ліпеня 2000 г., г.Менск** **Старшыня ТБМ Алег Трусаў.**



## Мітынг ля магілы песняра

Памяці народнага паэта БеларусіЯнкі Купалы быў прысвечаны мітынг, які прайшоў у дзень яго смерці 28 чэрвеня на Вайсковых могілках у Менску. Ля магілы песняра, класіка беларускай літаратуры сабраліся прыхільнікі яго творчасці, вядомыя паэты і празаікі, а таксама пачаткоўцы.

На здымку свае вершы ля помніка чытае вядомы беларускі паэт Пятро Прыходзька.

**Фота Аляксея Мацюшкова, БелТА**

## ВІДЭАСЕАНСЫ

Штосуботу а 18-й гадзіне
**У БЕЛАРУСКІМ ВІДЭАКЛУБЕ:**
Румянцава, 13,
Таварыства Беларускай Мовы
(ля Лінгвістычнага універсітэта)
Тэл. 284-85-11, 213-43-52
Мультфільмы Фантастыка
Музыка Прыгоды Публіцыстыка
іншае
**САРДЭЧНА ЗАПРАШАЕМ**

**ВЫСТАВА**
**Лепшых беларускіх кніжак, аўдыё, відэа**
**ПРАЦУЕ**
**ШТОДНЯ (акрамя серады): 14.30 – 19.00**
**СЕРАДА: 11.00 – 15.00**
**СУБОТА: 17.00 – 19.00**
**НАДЗЕЛЯ: ВЫХАДНЫ.**
**(ВУЛ. Румянцава, 13, Сядзіба ТБМ**

## Сярэдняя школа №2 г.Менска

з паглыбленым вывучэннем замежных моў аб'яўляе набор вучняў у 0-10 класы. Мова навучання – беларуская. **Паглыблена вывучаюцца французская і англійская мовы.** Рэгулярныя школьныя абмены з ліцэямі Францыі, моўныя стажыроўкі. Спадарожнікавае тэлебачанне на уроках.

**Тэлефон для даведак 248-32-02.**
**Адрас школы: пр. Ракасоўскага, 93.**
Дырэктар СШ №2 Сядзяка А.Г.

## *Аб правядзенні пікету*

**Спадару Міхаілу Паўлаву**
**Старшыню Менскага гарвыканкаму # 8, пр-т Скарыны 220050 Менск**

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" просіць дазволу правесці пікет 27 ліпеня 2000 году з мэтай агітацыі за беларускамоўную адукацыю і сапраўдную роўнасць абедзвюх дзяржаўных моў, а таксама ў падтрымку стварэння ў краіне Беларускага нацыянальнага ўніверсітэту.

Час правядзення пікету – з 17.00 да 19.00. Месца правядзення – Міхайлаўскі сквер. Колькасць удзельнікаў – да 5000 чалавек.

Адказны за правядзенне пікету: Трусаў Алег Анатольевіч – старшыня ГА "ТБМ імя Ф.Скарыны", дацэнт Беларускага ўніверсітэту культуры. Хатні адрас: 220005, г.Менск, вул.Пляханава, 56, корп.1, кв.133. Тэлефон: 249-70-30.

Ласкава просім паведаміць менавіта вышэйпазначанае месца правядзення пікету. У крайнім выпадку прапанаваць на выбар некалькі іншых месцаў. Але маем настойлівую просьбу не прапаноўваць нам парк Сяброўства народаў (пл.Бангалор), дзе жыхары ваколіцаў маюць звычку выгульваць братоў сваіх малодшых альбо адпачываюць з малымі дзецьмі.

У звязку з гэтым мусім нагадаць Вам, што мэта правядзення любога пікету – гэта прыцягненне ўвагі грамадскасці да пазначаных у заяўцы праблемаў, якія патрабуюць тэрміновага вырашэння. Лічым, што парк Сяброўства народаў не адпавядае выкананню гэтай задачы.

**Старшыня ГА "ТБМ імя Ф.Скарыны" Алег Трусаў**

30.06. 2000 г. № 485 на № 28/535-122 ад 21.06.2000 г.

## Пра ўдзел ТБМ у дыялогу грамадска-палітычных сілаў Беларусі, стан беларускай мовы ды ўтварэнне Беларускага нацыянальнага ўніверсітэту

**Спадару Посахаву С.А. Памочніку прэзідэнта Рэспублікі Беларусь # 38, вул. К.Маркса, 220016 Менск**

Паважаны спадар Посахаў!

На чарговым паседжанні Сакратарыяту ТБМ, што адбылося 29 чэрвеня 2000 г., сярод іншых пытанняў быў абмеркаваны і Ваш ліст. З гэтае нагоды паведамляем Вам наступнае.

Мы цалкам згодныя, што пра стан мовы тытульнай нацыі краіны мусіць клапаціцца не толькі нашая грамадская арганізацыя, а ў першую чаргу дзяржаўная ўлада, бо справа гэтая ў любой цывілізаванай краіне свету нашмат больш дзяржаўная, чым грамадская. І праблему гэтую трэба вырашаць тэрмінова, не губляючы часу на словы, як і пытанне ўтварэння ў Беларусі беларускамоўнага Нацыянальнага універсітэту.

Таму мы спадзяемся, што з Вашага спрыяння згаданныя праблемы абавязкова знойдуць сваё адлюстраванне і ў межах Дыялогу, і ў дзяржаўных друкаваных і электронных сродках масавай інфармацыі.

Мяркуем, што сярод 112 грамадскіх арганізацыяў, што лічацца ўдзельнікамі Дыялогу, знойдуцца ахвотныя стварыць экспертную групу па гэтых надзвычай актуальных у жыцці нашай краіны пытаннях, і тады прадстаўнікі ТБМ абавязкова возьмуць удзел у яе працы.

Мы зноў падкрэсліваем сваё жаданне абмеркаваць, як з кіраўніком беларускай дзяржавы, гэтак і з яго адказнымі прадстаўнікамі вышэйзгаданыя праблемы, і ў тым ліку грунтуючыся на выніках апошняга перапісу насельніцтва Беларусі.

Разам з тым даводзім да Вашага ведама, што на сёння Таварыства мае 27 378 (дваццаць сем тысячаў трыста семдзесят восем) подпісаў грамадзянаў з патрабаваннем адкрыцця ў Беларусі Беларускага нацыянальнага універсітэту і можа падаць гэтыя подпісы падчас сустрэчы з кіраўніцтвам дзяржавы.

**З павагай, Старшыня ТБМ Алег Трусаў.**

